# 25-га Сакавіка на фоне гістарычным

(Працяг)

## ВАЙНА 1914 ГОДУ

З выбухам вайны умовы нацыянальнай культурна-асьветнай працы Беларусаў яшчэ больш пагоршыліся. Царскі ўрад, непадгатаваны да вайны, схапіўшыся за свае старыя мэтады ваеннае тактыкі «закідваць ворага шапкамі», запрудзіў Беларусь мільённымі полчышчамі. У кажнай хаце беларускага селяніна нельга было павярнуцца ад салдачч‍ыны, а ў гарадох і мястэчках ад афіцарні. Расейская мова, гармонік перавярнулі Беларусь у салдацкую карчму. Дэмаралізуецца, русыфікуецца беларуская моладзь...

Уся Беларусь рэжыцца акопамі, а перад адступленьнем беларускае насельніцтва сілай выганяецца ў «бежанцы» Каля трох мільёнаў Беларусаў доўгімі абозамі расьцягнуліся аж да Адэсы, Сібіры, Архангельску. У 1915 годзе спыняецца й выхад «Нашае Нівы».

Невялічкія кадры беларускае інтэлігенцыі расьцярушваюцца ў расейскім войску. Адзіны толькі беларускі асяродак — «Беларускі Камітэт пацярпеўшым ад вайны» захоўваецца неяк у Менску і некалькі «бежанскіх» паходных камітэтаў — у будках на вазох на Украіне й Расеі.

Вось у кароткіх рысах абставіны, у якіх Беларусь знаходзілася напярэдадні рэвалюцыі.

## РЭВАЛЮЦЫЯ 1917 ГОДУ

У лютым месяцы 1917 году пад націскам нутраных сілаў агульнанароднага гневу паляцеў уверх дном царскі трон і пачала развальвацца штучна зьлепленая з розных народаў царская расейская імпэрыя. На яе акраінах пачалі аджываць маладыя храсткі прыродных арганізмаў калісь падбітых і зруйнаваных Масквой дзяржаваў і народаў. Заварушыліся ўсе падняволеныя народы, закіпела праца дзяржаўнага будаўніцтва маладых рэспублік.

Заварушыліся й Беларусы. З усіх канцоў расейскай імпэрыі сьпяшаюцца яны дастацца на Беларусь. Менскі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны пераарганізоўваецца ў Беларускі Нацыянальны Камітэт і прыступае да арганізацыйнай палітычнай працы. Нацыянальны Камітэт пасылае ў сакавіку месяцы 1917 году дэлегацыю ў Петраград, дамагаючыся краёвай аўтаноміі для Беларусі. Але новы ўладар Расеі Керэнскі беларускую дэлегацыю адмовіўся навет прыняць.

У ліпені месяцы Нацыянальны Камітэт, увайшоўшы ў кантакт з радам паўстаўшых стыхійна іншых беларускіх камітэтаў і арганізацыяў, склікае зьезд іхных прадстаўнікоў. На месцы Нацыянальнага Камітэту паўстае Беларуская Цэнтральная Рада, якая выносіць рэзалюцыю аб патрэбе нацыянальна-дзяржаўнай арганізацыі.

Сярод беларускіх вайскавікоў на фронце і ў тыле распачаўся таксама ажыўлены рух. Адбыліся зьезды ў Менску, Рызе, Кіяве, Адэсе і, ня гледзячы на забарону Керэнскага, прыступаюць да фармаваньня асобных беларускіх вайсковых адзінак. Паўстае цэнтраля — Беларуская Вайсковая Рада, якая потым зьліваецца з Цэнтральнай Беларускай Радай (цывільнай) у вадну арганізацыю пад назвай **Вялікай Беларускай Рады.**

## ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

**Перад Вялікай Беларускай Радай паўстала столькі пытаньняў вялікай гістарычнай вагі, што для разьвязаньня іх кіраўнікі Рады пастанавілі склікаць Усебеларускі Кангрэс, каб такім чынам праверыць волю й сілу беларускага народу па ягонай 125-гадовай няволі. Найвялікшы беларускі паэта заклікаў у той час беларускі народ у сваім глыбака натхнёным вершы:**

**«На сход, на ўсенародны бурны сход,**
**Ідзі пакрыўджаны, аграблены народ!»**

У пяршыню пасьля звыш стогадовай няволі па ўсей Беларусі распачаліся выбраы дэпутатаў на Першы Ўсебеларускі Кангрэс. У пачатку сьнежаня 1917 году ў Менск прыбыло з усіх кутлоў Беларусі 1872 дэлегатаў. На колькі сур'ёзна й паважна адбываліся выбары, відаць хоць-бы з таго, што з 1872 дэлегатаў было з правам пастанаўляючага голасу 1167 і 705 з правам дарадчага голасу.

5 сьнежаня (па новаму стылю 18) 1917 году распачаўся гістарычны Ўсебеларускі Кангрэс, які цягнуўся два тыдні, аж пакуль на зьезд не напалі ўзброеныя сілы бальшавіцкіх «сібірскіх стралкоў» і не разагналі яго збройнай сілай. Кангрэс аднак пасьпеў амаль поўнасьцю закончыць праграму сваей працы. Было прынята рад рэзалюцыяў па ўсіх прынцыповых пытаньнях сацыяльнага, эканамічнага й палітычнага характару. Апошняй зь іх была прынятая рэзалюцыя **аб утварэньні зь Беларусі самастойнай дэмакратычнай рэспублікі.** Заставалася толькі выбраць кіраўнічыя органы.

Дэлегаты Кангрэсу, ня маючы ў сваім распараджэньні дастаткова вайсковае сілы, каб адбіць гарадзкі тэатр у Менску, захоплены сібірскімі стралкамі, у якім адбываўся Кангрэс, 18 (31 па новаму стылю) сьнежаня сабраліся ў чыгуначным дэпо і аднагалосна выбіраюць Раду Кангрэсу вярхоўным заканадаўчым органам Беларусі, перадаючы ей свае неабмежаваныя паўнамоцтвы аж да скліканьня Устаноўчага Сойму Беларусі. Рада Зьезду выбірае із свайго складу Выканаўчы Камітэт. Такім чынам у Беларусі з волі беларускага народу законным правам пры захаваньні ўсіх дэмакратычных прынцыпаў паўстала ўлада, арганізацыйная структура якой выглядала гэтак:

Рада Кангрэсу (перайменаваная потым на Раду Беларускай Народнай Рэспублікі) мела прэрэгатывы тымчасовага парляманту. Старшыня Рады — прэрэгатывы прэзыдэнта рэспублікі. Выканаўчы Камітэт Рады — прэрэгатывы рады міністраў. На правінцыі пачалі арганізавацца адпаведныя выканаўчыя органы, падлягаючыя кіраўніцтву й кантролі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту (Радзе Міністраў). Вялікую ролю ў арганізацыі мясцовых органаў улады адыгрывалі дэлегаты Кангрэсу, якія разьехаўшыся, з энтузіязмам узяліся за працу.

**Паштовая марка Беларускай Народнай Рэспублікі зь ліста, адрысаванага зь Беларусі ў Латвію, адштампляваная беларускай поштай 10 красавіка 1920 году.**

**На другім баку канвэрту штэмпаль Рыгі з датай 17 красавіка 1920 году.**

**На штэмплі на марцы даецца расчытаць:**

**«Паштовая кантора Б.Н.Р.» і дату — «10. 4. 1920».**

**Словы: «Асобны Атрад» — назва аднэй із вайсковых фармацыяў Б.Н.Р.**

## ЗБРОЙНАЕ ЗМАГАНЬНЕ

Рада Кангрэсу й Выканаўчы Камітэт, застаўшыся ў Менску, апынуліся ў вельмі цяжкіх абставінах.

Як у Менску, гэтак і на правінцыі ішло змаганьне беларускіх вайсковых аддзелаў з рознымі чужацкімі фармацыямі. Апрача расейскіх войскаў, у Беларусі знаходзіўся яшчэ польскі корпус Доўбар-Мусьніцкага, які, сфармаваўшыся на Беларусі яшчэ з дазволу Керэнскага, цяпер, прабіваючыся ў Польшчу да арміі Пілсудзкага, таксама паставіўся варожа да беларускага ўраду. Беларускаму ўраду даводзілася змагацца на ўсе бакі. Найлепшая беларуская вайсковая адзінка — Беларускі Корпус, сярод ахвіцэраў якога быў і Якуб Колас, прабіраючыся з паўдня праз Румынію, на Беларусь не дайшоў. Румынскі ўрад яго разаружыў і ўсю ягоную маемасьць сканфіскаваў.

Змаганьне Беларусаў у краі было цяжкім. Разнаякая рэакцыя вяла шалёную кампанію супраць беларускага ўраду. Выкарыстоўваліся старыя сьлягаы аб беднасьці і ўбогасьці Беларусі, што беларуская дзяржава будзе «бяз солі», «бяз газы» ды чаўпліся беларускім сялянам розныя іншыя недарэчнасьці, каб у іх адбіць ахвоту ў падтрымцы Беларускае Рады.

19 лютага 1918 году Менск быў ачышчаны ад чужацкіх войскаў. Над усім Менскам залунаў беларускі бел-чырвона-белы сьцяг з Пагоняй. Рада Кангрэсу ўсталявалася ў юбілейным доме пры Захараўскай вуліцы і 21 лютага на супольным паседжаньні Рады з Выканаўчым Камітэтам было пастаноўлена рэарганізаваць урад. Быў сфармаваны Народны Сакратарыят. Жыдоўская нацыянальная меншыня і расейская сацыял-дэмакратычная партыя, пабачыўшы цяпер сілу Беларускае Рады, пастанавілі ўвайсьці таксама ў склад беларускага ўраду.

Урад Беларусі — Народны Сакратарыят сфармаваўся ў наступным складзе.

Старшыня ўраду — **Я. Варонка,** нутраныя справы — **Макрэяў,** асьветы — **А. Смоліч,** юстыцыі — **Бялевіч,** народнай гаспадаркі — **Серада,** шляхоў — **Рэдзька,** фінансаў — **Белкінд,** сацыяльнай апекі — **Бадунова,** расейскай нацыянальнай меншыні — **Злобін,** пошты й тэлеграфу — **Карач,** вайсковых справаў — **К. Езавітаў,** дзяржаўнага кантролю — **П. Крэчэўскі,** дзяржаўны сакратар — **Л. Заяц.**

Таго-ж самага дня, 21 лютага 1918 году, была апублікаваная Перашая Ўстаноўчая Грамата да народу Беларусі наступнага **зьместу.**

## НЯМЕЦКАЯ АКУПАЦЫЯ

Усьлед на зьмену аднаго акупанта не замарудзіў зьявіцца другі. Немцы, захапіўшы Беларусь аж па Бярэзіну, аднесьліся да ўраду маладой беларускай рэспублікі варожа. Бэрлін хацеў бачыць на чале беларускай дзяржавы манарха, як гэта Немцам удалося зрабіць зь Летувай, якая акцэптавала сваім каралём прускага прынца. У Беларусі на штось падобнае не адказвалі ані настроі насельніцтва, ані дэмакратычны склад ураду. Уступіўшы таму ў Менск, Немцы сарвалі беларускі сьцяг з будынку беларускага ўраду і павесілі нямецкі, сканфіскавалі дзяржаўную касу і разьвязалі беларускія вайсковыя фармацыі. Ураду-ж самога хоць і не разагналі, але вельмі перашкаджалі яму ў зносінах зь мясцовымі правінцыянальнымі органамі.

Беларускі ўрад, пасылаючы ў Бэрлін пратэст за пратэстам, адначасна прадаўжае сваю арганізацыйную працу нелегальна. Беларускія вайскавікі на чале з Захаркам і Езавітавам арганізуюць патаемна вайсковыя адзінкі. Далей у бе-

(Заканчэньне на 7 балоне)



Група ўдзельнікаў Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Канфэрэнцыі Прадстаўнікоў Прэзыдыюму Рады БНР і Беларускіх Палітычных Арганізацыяў, якая адбылася 25-28 верасьня 1921 году ў Празе Чэскай, на якой было сьцьверджана, што адзіным заканадаўчым органам Беларусі зьяўляецца Рада БНР, якая мае пераймальнасьць улады ад Беларускага Кангрэсу 1917 году. На фото першым зьлева на права сядзіць Прэзыдэнт П. Крэчэўскі, а другім Прэзыдэнт В. Захарка.

## ПЕРШАЯ ЎСТАНОЎЧАЯ ГРАМАТА

**Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане.**

**Дзе цяпер улада, што была тут, невядома, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць лёс у ўласныя рукі.**

**Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самавызначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію.**

**Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму.**

**Але, і да скліканьня Устаноўчага Сойму, уся ўлада на Беларусі павінна належыць тым народам, якія на ёй жывуць.**

**Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзейсьніваючы мэты Зьезду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму, на аснове агульнага, простага, роўнага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і полам.**

**Часовую народную ўладу Краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацьверджэньне заваёваў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які з гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасьля.**

**Дадзена ў Менску Беларускім 21 (8) лютага 1918 году.**

**Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду.**

# Нямеччына ратыфікаваяа дагаворы

Ніжняя палата заходнянямецкага парляманту ратыфікавала 19 сакавіка ў трэйцім і апошнім чытаньні генэральны дагавор трох заходніх вялікадзяржаваў (ЗША, Вялікабрытанія й Францыя) з Заходняй Нямеччынай аб прыняцьці яе ў сям'ю вольных народаў Захаду на прынцыпах роўнага партнэрства і дагавор аб стварэньні нямецкай арміі ў рамах эўрапэйскай абароннай супольнасьці. Дагаворы былі прынятыя бальшынёй 226 галасоў супраць 164 пры 2 паўстрымаўшыхся. Гэтая пастанова ніжняй палаты яшчэ мусіць быць пацьверджаная вышэйшай палатай нямецкага парляманту, што мае адбыцца хутка пасьля Вялікадня. Міністар замежных справаў ЗША Даллес ратыфікацыю Нямеччынай абодвых дагавораў назваў «гістарычным мерапрыемствам». Такім чынам Нямеччына першая ратыфікавала трактат аб эўрапэйскай арміі. Яшчэ дагавор маюць ратыфікаваць парляманты Францыі, Італіі, Бэльгіі Галяндыі й Люксэмбургу.

# Прэсавы Камунікат

## БЕЛАРУСКАГА АНТЫБАЛЬШАВІЦКАГА ФРОНТУ

**У днях 7 і 8 сакавіка 1953 году ў Лёндане адбыўся Надзвычайны Зьезд дэлегатаў і ўпаўнамочаных прадстаўнікоў Беларускага Антыбальшавіцкага Фронту (БАФ) на паасобныя краіны (Ангельшчына, Бэльгія, Нямеччына й Францыя).**

**На Зьезьдзе былі, між іншым, разгляданыя дасюлешняя дзейнасьць арганізацыі, пытаньне далейшага супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня й адносіны да Каардынацыйнага Цэнтру Антыбальшавіцкай Барацьбы.**

**На аснове прынятых пастановаў быў апрацаваны адумысловы мэмарандум Амэрыканскаму Камітэту Вызваленьня.**

**Прэзыдыюм Зьезду**

# Выбары у Савецкай Беларусі

22 лютага сёлета адбылася ў БССР чарговая камэдыя выбараў у абласныя, раённыя, гарадзкія, сельскія й пасялковыя саветы. Згодна афіцыяльнага камунікату аб гэтых выбарах, абвешчанага ў Менскай «Зьвязьдзе» за 1 сакавіка 1953 г., выбраныя дэпутаты ў 12 абласных саветаў, 175 раённых саветаў, 66 гарадзкіх, 11 раённых саветаў у гарадох, 2.520 сельскіх і 112 пасялковых саветаў.

Як у Саветах бывае заўсёды, удзел у выбарах быў рэкордны. Гэтак у вабласныя саветы галасавала 99.99% выбіральнікаў, у раённыя 99.99%, у гарадзкія таксама 99.99%, у раённыя саветы ў гарадох 99,98%, у сельскія й пасялковыя саветы 99,99%.

Згодна таго-ж камунікату, усяго выбрана дэпутатаў у мясцовыя саветы 71.701 чалавек. І ўсе выбраныя кандыдаты зьяўляюцца кандыдатамі блёку камуністых і беспартыйных. Цікава, як-бы магло быць інакш, калі толькі такія кандыдаты й фігуравалі ў выбарных бюлетэнях? У ліку дэпутатаў 23.532 жанчыны, або 32,8%, 25.532 сябры й кандыдаты камуністычнай партыі, або 35,6%, 46.169 беспартыйных, або 64,4%.

Але найцікавейшым зьяўляецца наступнае паведамленьне камунікату: «**па чатырох выбарных акругах па выбарах у сельскія саветы кандыдаты, якія балаціраваліся, не атрымалі абсалютнай бальшыні галасоў і ня былі выбранымі дэпутатамі. У гэтых акругах у вадпаведнасьці з палажэньнем аб выбарах адбудуцца новыя выбары».**

Тое, што ў чатырох выбарных акругах праваліліся кандыдаты «Сталінскага блёку камуністых і беспартыйных», у ўмовах савецкага безагляднага таталітарызму зьяўляецца зьявішчам вельмі паказальным і шмат гаворачым, што навет ведамы ангельскі штодзеньнік лібэралаў «Манчэстэр Гардыян» у нумары за 3 сакавіка сёлета памясьціў у гэтай справе на першай балоне спэцыяльны артыкул «Кульганьне ў галасаваньні — Беларусы мусяць галасаваць нанава».

Гэтак ангельская газэта, успомніўшы наагул аб выбарах у Савецкім Саюзе, дзе заўсёды галасуе 99,99% на кандыдатаў Сталінскага блёку камуністых і беспартыйных, піша:

**«Але гэтак ня ёсьць у Беларусі. У мясцовых выбарах, што адбыліся апошняга тыдня, паводля радыя зь Менску, сталіцы рэспублікі, здаецца, нешта мусіла здарыцца, што зьяўляецца бяз прэцэдэнсу ў гісторыі савецкіх выбараў. Радыё гаворыць:**

**«Выстаўленыя кандыдаты не атрымалі абсалютнай бальшыні галасоў і гэтым ня былі выбранымі у чатырох саветах у выбарах у сельскія саветы. У гэтых саветах будуць мець месца новыя выбары згодна палажэньня аб выбарах у мясцовыя саветы БССР».**

**Усяго столькі, і ня былі пададзеныя ніякія прычыны, чаму гэным кандыдатам не ўдалося атрымаць бальшыні. Яны павінны былі-б быць выбранымі бязь ніякіх засьцярогаў, як і ўсе кандыдаты ў цэлым Савецкім Саюзе. Магла-ж гэта няўдача атрымацца з гледзішча на агітатараў, якія ня ўмелі пакіраваць, каб здабыць патрэбную колькасьць галасоў? Калі так, дык яны празявалі свае абавязкі, а Сталін-жа зьяўляецца амаль пэўным у падборы пэрсаналу ў такіх справах. Судзячы на падставе савецкай прэсы, Сталін быў у выбарах, што адбыліся ў вапошнім тыдні, першым кандыдатам, калі так сказаць, у няпрысутнасьці, для кажнай вёскі, раёну, гораду і правінцыянальных саветаў працоўных. Як паказваюць справаздачы, ён яшчэ ні разу не праваліўся на выбарах. Ён будзе напэўна сярдзіты за недавер да ягонай асобы, які цяпер**

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Ці узапраўды пачатак эры Айзэнгаўэра?

I

**«Эра Айзэнгауэра пачынаецца там, дзе закончылася эра Сталіна»** — асьветчыў міністар замежных справаў ЗША Джон Фостэр Даллес 9 сакавіка 1953 году на прэсавай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне. Гэтыя крылатыя словы найбліжэйшага супрацоўніка Айзэнгаўэра ў галіне замежнай палітыкі адразу былі падхопленыя прэсай і публічнай апініяй Захаду, як найбольш правільнае сфармуляваньне ролі палітыкі новага амэрыканскага прэзыдэнта ў сьвеце.

### СТАЛІН СТВАРЫЎ СВАЮ ЭРУ Ў ЗАПРАЎДНАСЬЦІ

Міністар Даллес, гаворачы аб эры Сталіна, што на ягоную думку ўжо закончылася, і аб эры Айзэнгаўэра, якая толькі мае пачацца, ня меў на думцы дасягненьняў іх абодвых выключна ў собскіх краінах, але ў цэлым сьвеце. Паняцьце тады эры Сталіна й эры Айзэнгаўэра, не абмяжоўваецца гэтымі краінамі, хоць яны зьяўляюцца сяньня наймагутнейшымі ў цэлым сьвеце, але мае значэньне глябальнае ў найбольш дакладным значэньні гэтага слова.

Дзеля гэтага сьпярша варта прыглядзіцца, ці Сталін узапраўды даканаў такіх вялікіх дасягненьняў сусьветнага значэньня за 29 год свайго панаваньня ў Савецкім Саюзе ад сьмерці Леніна ў 1924 годзе й пераняцьця па ім абсалютнай улады да дня ягонае сьмерці 6 сакавіка сёлета, што гэты пэрыяд заслугоўваў-бы на назву асобнае эры? Пры гэтым трэба адразу адцеміць, што ня ўсе гэтыя 29 год твораць пэрыяд, які мог-бы быць названы сталінскай эрай, але фактычна толькі апошняе дзесяцігодзьдзе, якое дзеліць сьмерць крэмлёўскага дыктатара ад апошняй сусьветнай вайны, можа быць разгляданае, як асобная эра.

Галоўнай ідэяй Леніна, выплываючай з камуністычнай дактрыны, была сусьветная пралетарская рэвалюцыя й зьнішчэньне капіталістычнай сыстэмы ў цэлым сьвеце. Але ў практыцы расейскага камунізму было і ёсьць гэта ня чым іншым, як імкненьнем да запанаваньня Масквы, як вогнішча й цэнтру ўсяго камунізму, над цэлым сьветам. Такое разуменьне Савецкім Саюзам гэтага галоўнага камуністычнага лёзунгу ня можа выклікаць у нікога найменшых сумляваньняў, паколькі найбольш вымоўна гаворыць аб гэтым сама савецкая практыка, асабліва гэта сталася бясспрэчным на працягу апошняга дзесяцігодзьдзя.

Да апошняй сусьветнай вайны Сталін яшчэ нічога канкрэтнага не зрабіў у кірунку рэалізацыі «сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі», калі ня браць пад увагу стараннага разбудоўваньня камуністычных пятых калёнаў ува ўсіх краінах вольнага сьвету. Выкліканая ім дамашняя вайна ў Гішпаніі скончылася няўдачай, паколькі краіна гэтая не гранічыла з Савецкім Саюзам. Савецкі Саюз перад апошняй вайной фактычна быў заняты справамі нутранымі. Галоўнымі зь іх былі: 1. замацаваньне абсалютнай дыктатарскай улады Сталіна й безаглядная зьнішчэньне ўсіх ягоных актыўных і патэнцыяльных праціўнікаў, ня выключаючы й праціўнікаў толькі уяўленых, як і ў першую чаргу ўнутры партыі, гэтак і паза партыяй; 2. правядзеньне г. зв. працэсу саветызацыі сярод усіх падсавецкіх народаў шляхам: а) вынішчэньня многіх мільёнаў фактычных, патэнцыяльных і ўяўных праціўнікаў і незадаволеных з савецкай сыстэмы і ўлады, б) запалоханьня й стэрарызаваньня астальной уцалелай часьці народаў, каб выключыць навет усякую думку аб спробах супраціву і в) перавыхаваньня пры помачы ўсіх даступных сродкаў псыхікі старэйшага пакаленьня, што помніла яшчэ лепшыя дарэвалюцыйныя часы, і выхаваньня ў тым-жа духу маладога пакаленьня; 3. правядзеньне індустрыялізацыі адсталай дагэтуль краіны ў мэтах прадукаваньня патрэбнай колькасьці зброі й ваеннага матарыялу ня дзеля абароны, хаця прапаганда трубіла аб абаронных мерапрыемствах, але выключна дзеля агрэсіі — правядзеньня сусьветнай «пралетарскай рэвалюцыі»; 4. правядзеньня калектывізацыі сельскай гаспадаркі з мэтаю: а) поўнага падпарадкаваньня дзяржаве сельскагаспадарскай вытворчасьці й кантролі над ёй, б) выкараненьня сярод сялянства нявызнаванай камунізмам собсьніцкай псыхалёгіі й поўнага падпарадкаваньня яго партыйнаму й дзяржаўнаму апарату.

Вось-жа ўсе гэтыя мерапрыемствы да 1939 году былі ўжо закончаныя і Сталін мог ужо прыступіць да выконваньня сваей вонкавай місіі. Спрыяльнай нагодай да гэтага сталася другая сусьветная вайна, якая была ў гэтых мэтах галоўным чынам справакаваная самым-жа Сталінам дзякуючы савецка-нямецкаму пакту Молатаў-Рыбэнтроп.

Ня будзем тут дэтальна пералічаць, што на працягу апошняга дзесяцігодзьдзя ўдалося Сталіну дасягнуць дзеля апанаваньня сьвету. Гэта заняло-б лішне шмат месца, ды ўсё гэта і так кажнаму ведама. Пакажам толькі вынікі сталінскай акцыі навонкі, а вынікі гэтыя не малыя. Папершае, — перад дзесяцьцю гадамі Сталін меў пад сваей уладай няпоўных 200 мільёнаў людзей, а ў спадчыне пакінуў 800 мільёнаў чалавек, г. зн. каля аднэй трэйцяй насельніцтва ўсяго сьвету. Такім чынам «сусьветная пралетарская рэвалюцыя» для аднэй трэйцяй часьці насельніцтва сьвету ёсьць ужо дакананым фактам. Падругое, — астальныя дзьве трэйція часьці насельніцтва патрапіў на столькі падмінаваць сваімі пятымі калёнамі, разбудаванымі да нябывалых перад гэтым разьмераў, што дзяржавы дэмакратычнага Захаду маюць зь імі вельмі паважныя клопаты, якія, на выпадак вайны, бясспрэчна павялічацца і стануцца вялізарнай пагрозай. Па трэйце, — дзякуючы напружанай халоднай вайне, якую Саветы вядуць ад заканчэньня апошняй гарачай вайны, ім удаецца ў паважнай меры раскладаць маральна заходнія грамадзянствы й ствараць вялікія эканамічныя цяжкасьці для заходніх дзяржаваў, якія дзеля неабходных абаронных мерапрыемстваў змушаны абніжаць дабрабыт свайго насельніцтва і эканамічны прагрэс сваіх краінаў. Пачацьвертае, — у сусьветнай міжнароднай палітыцы Саветы перабралі ініцыятыву ў свае собскія рукі, у выніку чаго палітыка заходніх дзяржаваў разьвіваецца не паводля істотных патрэбаў гэтых апошніх, але паводля таго, што ў дадзены мамэнт прадпрыме Савецкі Саюз.

Усё гэта сталася выключна зь віны самога дэмакратычнага Захаду, у выніку ягоных вялізарных і фатальных памылак падчас і пасьля апошняй вайны, але, незалежна ад гэтага, факт астаецца фактам, што яно сталася. Таму ёсьць аж надта дастаткова падставаў гаварыць аб эры Сталіна. Праўда, была гэтая эра нязвычайна панурая, кашмарная й жахлівая, тым ня меней у сваіх страшных і грозных выніках была яна эрай вялікай, эрай глябальнага засягу.

### ПЕРШЫЯ ПЛЯНЫ Й КРОКІ АЙЗЭНГАЎЭРА

Калі прыйшоў да ўлады Айзэнгаўэр, яшчэ нельга было спадзявацца хуткай сьмерці Сталіна. Таму Айзэнгаўэр апрацоўваў пляны сваей замежнай палітыкі і пачаў рабіць першыя крокі для ее рэалізацыі, лічучыся з тым, што яму прыдзецца мець справу з такім магутным праціўнікам, якім быў Сталін. Тым ня меней Айзэнгаўэр, як і ўвесь штаб ягоных найадказьнейшых супрацоўнікаў, як і ўся рэспубліканская партыя і паважная часьць партыі дэмакратычнай, як і бальшыня амэрыканскага народу прыйшлі да цьвёрдага перакананьня, што далей гэтак быць ня можа, як было дагэтуль, што трэба парваць з дасюлешняй палітыкай дэмакратычнай партыі і паддаць яе грунтоўнай рэвізіі ды распачаць новы, правільны і мэтазгодны курс дзеля ратаваньня загрожанай вольнасьці ня толькі Амэрыкі, але й усяго яшчэ вольнага сьвету. Сьмела, наважана й рашуча і распачаў прэзыдэнт Айзэнгаўэр у гэтым кірунку сваю дзейнасьць. Адразу пасьля перабраньня Айзэнгаўэрам прэзыдэнцкай улады амэрыканская замежная палітыка выказала нязнаную дагэтуль актыўнасьць. Сам Айзэнгаўэр паляцеў на карэйскі фронт, каб на месцы зарыентавацца ў сытуацыі і знайсьці спосабы хутчэйшага заканчэньня гэтай цяжкой і бескарыснай для Амэрыкі вайны. У Эўропу прыляцелі міністар Даллес і дырэктар узаемнай бясьпечнасьці Стасэн, галоўнай мэтай якіх было прысьпешыць стварэньне эўрапэйскай арміі, якую ўважае Амэрыка галоўнай перадумовай абароны Эўропы перад савецкай агрэсіяй. У травені мае Даллес асабіста паехаць на Блізкі Ўсход. У самой Амэрыцы адбываюцца бясконцыя яўныя й тайныя канфэрэнцыі Айзэнгаўэра й Даллеса з выдатнымі палітыкамі й фахоўцамі ў савецкім і ўсходнім пытаньні. Апрача гэтага, у Вашынгтон пачалі прыбываць прадстаўнікі ўрадаў Заходняй Эўропы. Гэтыя візыты распачаў брытанскі прэм'ер Чэрчыль, а пазьней два брытанскія міністры — замежных справаў Ідэн і фінансаў Батлер. У бліжэйшых месяцах маюць адбыцца ў Вашынгтоне візыты прадстаўнікоў урадаў амаль усіх дзяржаваў Заходняй Эўропы. Усё гэта гаварыла за тым, што Амэрыка з усей станоўчасьцю і шыбка прыступіла да рэалізацыі сваей замежнай палітычнай праграмы.

Раўналежна з такой ажыўленай дыпляматычнай акцыяй пачалі праяўляцца й канкрэтныя чыны першараднага значэньня. Тут трэба ўспомніць два найважнейшыя мамэнты: 1. Адступленьне ад дасюлешняй палітыкі паўстрымоўваньня Савецкага Саюзу, аўтарам якой быў незадачлівы Кэннан, палітыкі выключна абароннай, палітыкі нясьмелых поўсродкаў, замест якой была абвешчаная палітыка вызваленьня паняволеных Саветамі народаў, палітыка цьвёрдай рукі, палітыка наступальная, першым канкрэтным і аснаўным праяўленьнем катарой была рэзалюцыя аб нявызнаваньні пастановаў Ялты, што далі магчымасьць паняволіць Саветам усю сярэдня-ўсходнюю Эўропу, рэзалюцыя, якая перад адным месяцам была прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам унесеная ў кангрэс і над якой апошні ўжо быў распачаў сваю працу. 2. Дэнэўтралізацыя Фармозы й даньне вольнай рукі Чан-Кай-Шэку ў ягонай ваеннай дзейнасьці супраць камуністычнага Кітая. У сувязі з апошняй пастановай у ЗША абмяркоўваліся далейшыя мерапрыемствы, што мелі-б прывесьці да хутчэйшага заканчэньня карэйскай вайны, у тым ліку й пытаньне блякады кітайскага ўзьбярэжжа.

Усе гэтыя пачынаньні новага амэрыканскага ўраду давалі поўныя падставы спадзявацца, што Амэрыканцы, вырваўшы ініцыятыву із Сталінскіх рук, распачаўшы палітыку дынамічную і наступальную ды вядучы яе пад лёзунгам вызваленьня ўсіх паняволеных народаў, распачнуць гэтым самым узапраўды новую эру ў міжнародных дачыненьнях, эру Айзэнгаўэра. З гэтымі пачынаньнямі амэрыканскага прэзыдэнта зьбеглася якраз раптоўная сьмерць Сталіна, што дазволіла і міністру Даллесу сказаць афіцыяльна аб заканчэньні Сталінскай эры і пачатку эры Айзэнгаўэра.

### ПЕРАДЧАСНЫЯ НАДЗЕІ ЗАХІСТАЛІСЯ

Тымчасам 10 сакавіка сёлета амэрыканскае агенцтва «Асошыейтыд-прэс» разаслала з Вашынгтану камунікат наступнага зьместу:

**«Замежна-палітычная камісія амэрыканскага сэнату сяньня вынесла пастанову, што далейшы разгляд, як і галасаваньне над праектам рэзалюцыі, згодна якой мела быць засуджанае паняволеньне народаў Савецкага Саюзу, адкладаецца на неазначаны час. Некатрыя сэнатары, між іншымі, старшыня рэспубліканскай фракцыі сэнатар Робэрт А. Тэфт, пасьля паседжаньня камісіі далі зразумець, што ў кадэнцыі кангрэсу бягучага году праект рэзалюцыі ўжо болей ня будзе пастаўлены на разгляд. Як ведама, праект рэзалюцыі, ўплынуў ад ураду прэзыдэнта Айзэнгаўэра. У дапаўняючай прапанове да зэнгаўэру. У дапаўняючай прапанове да рэзалюцыі рэспубліканская фракцыя хацела сьцьвердзіць, што эвэнтуальнае прыняцьце гэтай рэзалюцыі ня будзе аднаначным з пасярэднім зацьверджаньнем сэнатам дагавораў у Ялце й Потсдаме. На гэтую дапаўняючую прапанову дэмакратычная фракцыя сэнату адмовілася даць сваю згоду, бо яе прыняцьце было-б, на яе думку, раўназначнае з вынясеньнем прысуду над палітыкай Рузвэльта і Трумана. Аднак без аднагалоснай пастановы сэнату гэтая рэзалюцыя страціла-б з гледзішча на стратэгію псыхалягічнай вайны ўсякую вымаганую вартасьць».**

Гэты камунікат гаворыць, што рэзалюцыя аб нявызнаваньні паняволеньня Савецкім Саюзам цэлага раду народаў і 100 мільёнаў людзей будзе адложанай што найменей на адзін год, а там, — дадамо ад сябе, — магчымы далейшы адклад і г. д. Значыцца — трэба ўважаць — увесь амэрыканскі шум аб палітыцы вызваленьня сяньня аказаўся мыльным пузыром. Значыцца, гэтак рэклямаваная «палітыка вызваленьня» (цяпер прыходзіцца браць яе ў двукосьсе), пад лёзунгам якой ішлі рэспубліканцы да выбараў і якая мела галоўным чынам вызначыць эру Айзэнгаўэра, ня была прынцыпам амэрыканскай палітыкі, а толькі тактычным ходам, які ў кажны любы мамэнт можа быць прадпрыняты,

(Заканчэньне на 8 балоне)

# Палітычныя Навіны

**Маленкаў ужо не сакратаром ЦК партыі.** Старшыня рады міністраў СССР Маленкаў, як было паведамлена 21 сакавіка з Масквы — зрокся свайго становішча генэральнага сакратара ЦК камуністычнай партыі, каб пасьвяціцца поўнасьцю свайму становішчу шэфа ўраду. Адначасна новы сакратарыят камуністычнай партыі з васьмёх сакратароў зьменшаны да пяцёх: Хрушчоў, Суслаў, Пасьпелаў, Шаталін і Ігнацьеў. Хрушчоў будзе займаць становішча генаральнага сакратара камуністычнай партыі. Многія заходнія камэнтатары ўважаюць, што Маленкаў ня зрокся дабравольна гэтага найвышэйшага становішча ў партыі, а быў змушаны яго пакінуць у сувязі зь непаразуменьнямі на савецкім алімпе.

**Раптоўная сьмерць дыктатара Чэхаславаччыны.** 14 сакавіка памёр у Праэе на запаленьне лёгкіх прэзыдэнт чэхаславацкай рэспублікі Клемэнт Готтвальд, які два дні перад гэтым зусім здаровым вярнуўся з Масквы з пахаронаў Сталіна. Гэта на Захадзе ўзбудзіла здагадкі, што памёр ён не сваей сьмерцю, тым болей, што належаў ён да праціўнікаў Маленкава. Ягоныя пахароны адбыліся паводля тэй самай формы й з такой самай помпай, што й пахароны Сталіна. Чэскі парлямант 21 сакавіка на новага прэзыдэнта Чэхаславаччыны выбраў Антона Запатоцкага, дасюлешняга прэм'ера Чэхаславаччыны.

**Сэсія Вярхоўнага Савету СССР.** 15 сакавіка сабраўся ў Маскве Вярхоўны Савет СССР, які складаецца з 1.300 дэпутатаў «выбраных» паводля ўзору, на сваю найкарацейшую ў гісторыі сэсію. Гэтая сэсія трывала роўна адну гадзіну й 10 мінут, хаця правяла рад пастановаў першараднай важнасьці й аднагалосна зацьвердзіла назначэньне Маленкава шэфам ураду СССР, рэарганізацыю дзяржаўнага апарату й назначэньні ды звальненьні раду іншых міністраў. Із справаздачаў з гэтай сэсіі выясьнілася, што міністар гандлю Мікаян зьяўляецца пятым заступнікам старшыні рады міністраў пасьля Бэрыі, Молатава, Булганіна й Кагановіча. Апрача гэтага сталася ведамым аб далейшых спалучэньнях раду міністэрстваў Савецкага Саюзу, так, што замест дасюлешніх 51 міністэрстваў асталося цяпер толькі 25.

**Савецкае вэто перашкаджае выбраць наступніка Трыгвэ Лі.** У сувязі з катэгарычнай адмовай Трыгвэ Лі выконваць у дальшым абавязкі генэральнага сакратара Задзіночаных Нацыяў, была высунутая на гэтае становішча кандыдатура міністра замежных справаў Канады Пірсона. Але на пасаджаньні Рады Бясьпечнасьці 13 сакавіка савецкі дэлегат зложыў сваё вэто супраць канадыйскага кандыдата. Дагэтуль яшчэ справа наступніка Трыгвэ Лі не магла быць вырашанай.

**Ціта адведаў Вялікабрытанію.** Ад 16 да 21 сакавіка адбыліся пяцідзнёвыя афіцыяльныя адведзіны югаславянскага прэзыдэнта Ціта ў Лёндане. Ціта быў прыйманы зь вялікай помпай, быў ён прыняты брытанскай каралевай Альжбетай II на сьняданьні, апрача гэтага адбываў канфэрэнцыі з брытанскім прэм'ерам Чэрчылям і міністрам замежных справаў Ідэным. У супольна выдзеным з брытанскім урадам камунікаце было між іншым адзначана, што дасягнутае поўнае паразуменьне ў справе супольнай абароны ў выпадку савецкай агрэсіі. Супраць Ціты былі ў Лёндане арганізаваныя дэманстрацыі, але загадзя прыгатаваная на падобныя выпадкі паліцыя спыніла іх у зародку.

**Стывэнсон на карэйскім фроньце.** Дэмакратычны кандыдат на амэрыканскага прэзыдэнта Эдляй Стывэнсон прыбыў 17 сакавіка на карэйскі фронт, дзе ў таварыстве камандуючага восьмай амэрыканскай арміі генэрала Тэйлера адведаў амэрыканскія становішчы на фроньце. У часе, калі Стывэнсон пакінуў адзін абсэрвацыйны бункер, быў ён абстраляны варожай артылерыяй, а адно артылерыйскае стрыльно разарвалася ад яго 45 мэтраў.

**Разьвязаньне японскага парляманту.** 14 сакавіка падчас галасаваньня над вотум даверу дасюлешняму японскаму прэм'еру Ёшыда парлямант бальшынёй 229 супраць 218 галасоў гэтага вотум даверу ня выказаў. У сувязі з гэтым Ёшыда згодна з канстытуцыяй разьвязаў парлямант і назначыў новыя выбары на красавік. Яму закідалася, што ён мала энэргічна супрацьставіўся падпарадкаваньню Японіі чужым дзяржавам.

**Супраць назначэньня Болена на амбасадара ЗША ў Маскве.** У амэрыканскім сэнаце ўзрасла вялікая апазыцыя супраць назначэньня прэзыдэнтам Чарльса Болена на амбасадара ЗША ў Маскве. Болену закідаецца, што ён зьяўляўся гарачым прыхільнікам палітыкі паўстрымоўваньня Савецкага Саюзу, што йдзе ў разрэз з новай амэрыканскай палітыкай Айзэнгаўэра. Канкрэтна яму закідаецца, што ён быў дараднікам міністра Эчысона й пераводчыкам прэзыдэнта Рузвэльта ў Ялце й Потсдаме.

**Справа савецкіх лекараў перад ЗН.** 120 выдатных амэрыканскіх лекараў зьвярнулася 19 сакавіка з пэтыцыяй да генэральнага сакратара ЗН Трыгвэ Лі з просьбай паклікаць міжнародную камісію дзеля дасьледваньня справы абвінавачаньня ў Саветах групы жыдоўскіх лекараў.

**Міністар Даллес адведае ў маі краіны Блізкага Ўсходу.** Міністар замежных справаў ЗША Даллес 10 травеня распачне свой аб'езд краінаў Блізкага Ўсходу. Пачынаючы ад сталіцы Эгіпту Каіру, ён адведае Лібанон, Ярданію, Ізраэль, Сырыю, Ірак, Саўдзі-Арабію, Лібію, а такжа Індыю й Пакістан.

**Амэрыканская помач нацыянальнаму Кітаю.** Шэф амэрыканскай ваеннай місіі на Фармозе генэрал Чэз паведаміў 18 сакавіка, што ў студзені й лютым атрымаў Чан-Кай-Шэк ад Амэрыкі помачы 23 заладаваныя караблі ваенных матарыялаў, сярод якіх знаходзяцца зьнішчальныя самалёты, гарматы, кулямёты, амуніцыя і самаходы. У сакавіку гэтая помач будзе падвоенай. Далей ген. Чэз запатрабаваў павялічыць колькасьць амэрыканскіх ваенных дараднікаў на Фармозе. Цяпер знаходзіцца там 760 амэрыканскіх ахвіцэраў і жаўнераў. Апрача гэтага каля 900 нацыянал-кітайскіх ахвіцэраў будуць у бягучым годзе перавышкаленыя ў ЗША.

**37 зламаных дагавораў.** Камісія замежных справаў амэрыканскай палаты рэпрэзэнтантаў сьцьвярджае, што Савецкі Саюз зламаў дагэтуль што найменей 37 ваенных дагавораў з Задзіночанымі Штатамі, пры чым зламаныя дагаворы датычаць 9 дзяржаваў і дзесяткаў мільёнаў людзей.

**Новы савецкі гымн.** Маскоўскае радыё распачало 16 сакавіка свае перадачы адыграньнем новага савецкага гымну «Ушануйце памяць Леніна й Сталіна». Словы новага гымну заклікаюць «усіх мужчын і жанчын Савецкага Саюзу задзіночыцца вакол партыі Леніна й Сталіна ў брацкай прыязьні для абароны Саюзу».

**Новы атамны выбух у ЗША.** 17 сакавіка адбыўся на пустыні штату Нэвада ЗША новы пробны выбух атамнай бомбы. 1.000 жаўнераў знаходзілася ў аддегласьці толькі 3 клм. ад выбуху ў равох глыбіні 5 стопаў. 5 мінут пасьля выбуху жаўнеры выйшлі з равоў, трасучыся яшчэ ад ціску паветра, але ніхто ня быў ранены.

**Камуністыя ў «Голасе Амэрыкі».** Лідэр рэспубліканцаў у сэнаце ЗША Тэфт 15 сакавіка паведаміў, што міністар замежных справаў Даллес правядзе грунтоўную чыстку ўсіх установаў радыя «Голасу Амэрыкі» й заменіць абсалютна ўсіх дасюлешніх працаўнікоў новымі людзьмі. «Калі-б я вырашаў гэтую справу, я зволніў-бы ўсіх працаўнікоў «Голасу Амэрыкі», — заявіў Тэфт — бо сярод іх прабывае вялікая колькасьць камуністычных паплечнікаў. Увесь зьмест радыяперадачаў згубны».

**Жак Дуклё новым сакратаром кампартыі Францыі.** Дасюлешні сакратар камуністычнай партыі Францыі Торэз, які ад двух год лечыцца ў Савецкім Саюзе, нядаўна меў ужо другі атак мозгу й ня будзе ўжо зьяўляцца здольным выконваць свае абавязкі. У сувязі з гэтым Крэмль выказаў сваю згоду, каб Жак Дуклё, які дагэтуль выконваў абавязкі Торэза, быў выбраны на сакратара камуністычнай партыі Францыі.

**Нэгру супраць абаронных пунктаў у Індыі.** Індыйскі прэм'ер Пандыд Нэгру 17 сакавіка ў парляманьце перасьцярог дзяржавы Атлянтычнага пакту супраць выкарыстаньня французскіх і партугальскіх уладаньняў у Індыі для збудаваньня ваенных лётніцкіх базаў. Такія крокі Індыя будзе разглядаць за акт няпрыязьні, бо гэта было-б у супярэчнасьці зь індыйскай палітыкай нэўтральнасьці.

**Камуністыя выкарыстоўваюць ваеннапалонных ЗН.** Вярхоўнае камандаваньне збройнымі сіламі Задзіночаных Нацыяў у Карэі мае шмат довадаў, што камуністыя бясправўна й супярэчна з жэнэўскай канвэнцыяй абходзяцца з ваеннапалоннымі ЗН. Гэтак амэрыканскія палонныя змушаюцца ў сваіх пісьмах у Амэрыку перасылаць камуністычныя лёзунгі й заклікі.

**Амэрыка мае дастаткова вайсковых рэзэрваў.** Дырэктар ураду мабілізацыі амэрыканскага міністэрства абароны генэрал Лінч асьветчыў 15 сакавіка, што Амэрыка першы раз у гісторыі мае такую колькасьць вайсковых рэзэрваў. Вышкалены пэрсанал у выпадку вайны можа быць хутчэй змабілізаваны, чымся ўзброены. У сучасны мамэнт мае Амэрыка 2 мільёны рэзэрвістых, пераважна ўдзельнікаў апошняй вайны. Да гэтага даходзіць адзін мільён вышкаленых рэзэрвістых у кажным годзе. Тры й з палавінаю мільёны амэрыканскай арміі, якая сяньня знаходзіцца пад аружжам, у найкаротшы час можа быць павялічаная да пяці з палавінаю мільёнаў.

# 25-га Сакавіка на фоне гістарычным

(Заканчэньне)

ларускага ўраду ўкраліся зь нямецкімі акупацыйнымі ўладамі такія дачыненьні: Немцы беларускага ўраду не чапалі, цывільная й адміністрацыйная ўлада знаходзілася ў руках беларускага ўраду. Бэрлін афіцыяльна беларускага ўраду ня вызнаваў, а беларускі ўрад ня вызнаваў нямецкай акупацыі і ня ўступаў з сваіх пазыцыяў.

9 сакавіка 1918 году ад імені Выканаўчага Камітэту Рады была апублікаваная 2-ая Ўстаноўчая Грамата да беларускага народу наступнага зьместу:

### ДРУГАЯ ЎСТАНОЎЧАЯ ГРАМАТА

**У час сусьветнае вайны, што разбурывае адны магутныя дзяржавы і вызваляе другія, прачнулася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля вяковай няволі, зноў на ўвесь сьвет гаворыць Беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікае Народнае Сабраньне — Ўсебеларускі Зьезд 5-17 сьнежаня 1917 г., клапочачыся аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выконваючы Волю Зьезду і бароначы правы народаў, Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду так пастанаўляе аб дзяржаўным будаваньні Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:**

**1. Беларусь у межах расьсяленьня і лічэбнай переваґі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.**

**2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, склiканы на падставе агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права бяз розьніцы полу, нацыянальнасьці і вызнаньня.**

**3. Да часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада БНР належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, папоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.**

**4. Выканаўчая і адміністратыўная ўлада ў БНР належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радай Зьезду і перад ёю адказывае.**

**5. У межах БНР абвешчываецца свабода слова, друку, сабраньняў, забастовак, саюзаў; бязумоўная свабода вызнаньня, недатыкальнасьць асобы і памешканьня.**

**6. У межах БНР усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвешчываецца раўнапраўнасьць усіх моў народаў Беларусі.**

**7. У межах БНР права прыватнай уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля бяз выкупу перадаецца тым, хто сам на ёй працуе. Лясы, вазёры і нутры зямлі абвешчываюцца ўласнасьцю БНР.**

**8. У межах БНР устаноўліваецца найбольшы васьмігадзінны дзень працы.**

**Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, Мы, Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду, забавязываемся абараняць законны парадак жыцьця ў Рэспубліцы, абараняць інтарэсы ўсіх грамадзян і народаў Рэспублікі і заховываць правы і вольнасьці працоўнага народу.**

**Таксама прыложым усе сілы, каб склікаць у найкарацейшы тэрмін Ўстаноўчы Сойм Беларусі.**

**Усіх верных сыноў беларускае зямлі заклікаем памагчы нам у цяжкі і адпаведны момант працы.**

**Выдана ў Менску Беларускім 9 сакавіка 1918 году.**

**Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду.**

У гэты час склад Рады быў яшчэ больш папоўнены прадстаўнікамі нацыянальных меншыняў: ад жыдоўскай сацыялістычнай партыі «Бунду» ўвайшоў **Гутман,** ад «Палейціён» (правай жыдоўскай партыі) **др. Зарубовень,** ад польскай меншыні — **Прыстар** (ППС), ад Летувісаў — **Мігуліс,** ад Расейцаў — **Злобін** і таксама прадстаўнікі земскіх і гарадзкіх самаўрадаў, сацыялістыя-рэвалюцыянэры. Назва Рада Зьезду перайменоўваецца цяпер у **Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.**

### НОВАЯ ЭРА

### АБВЕШЧАНЬНЕ БЕЛАРУСІ СУВЭРЭННАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

Як мы дагэтуль бачылі, усе акты Рады і Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі датычылі выключна нутранаарганізацыйных справаў рэспублікі. Ня было яшчэ зроблена афіцыяльнага кроку перад чужаземнымі дзяржавамі аб навязаньні дыпляматычных зносінаў, дзеля чаго зь юрыдычнага гледзішча Беларуская Народная Рэспубліка як-бы гэтым прызнавала над сабой сувэрэнітэт Масквы і давала ей гэтым самым падставу выступаць і падпісваць міжнародныя дагаворы і ад імені Беларусі.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі здаваў сабе з гэтага добра справу, але калі ён да гэтага часу ня выкарыстоўваў дадзеных яму на гэта неабмежаных паўнамоцтваў Усебеларускага Кангрэсу, дык толькі з тых прычынаў, што ў складзе Рады Беларускай Народнай Рэспублікі знаходзіліся некаторыя палітычныя ўгрупаваньні, якія, хоць і стаялі за незалежнасьць Беларусі, але ня былі пазбаўленымі тэндэнцыяў фэдэрацыі з Расеяй — у якой яны бачылі ня зусім закончаны працэс палітычнай крышталізацыі. Таму спадзяваліся раней ці пазьней дагаварыцца з Масквой на больш цясьнейшыя формы суадносінаў-фэдэрацыі.

Дзеля гэтага тая частка Рады, якая стаяла на пазыцыях абсалютнай незалежнасьці Беларусі, але ўлічваючы й так цяжкія абставіны, не хацела выклікаць нутранага завастрэньня ды змаганьня ў самой Радзе.

Берасьцейскі мір бальшавікоў зь Нямеччынай прысьпешыў аднак канчатковы разрыў Беларусі з Масквой. Як ведама, паводля Берасьцейскага дагавору Масква ўступала Нямеччыне амаль трэйцюю частку Беларусі. Немцы з свайго боку, падпісваючы дагавор з Украінай, уступалі ёй некаторыя беларускія паветы. Летуве аддавалі Вільню і частку віленскіх і горадзенскіх паветаў. Незалежніцкая частка Рады БНР бярэ верх над элемэнтам, што стаяў на грунце фэдэрацыі з Расеяй. Асноўнае ядро фэдэралістых складалі прадстаўнікі расейскай і жыдоўскай меншыні.

На паседжаньні Рады ў ночы з 24 на 25 сакавіка 1918 году па доўгіх дыскусіях прыймаецца ў 6 гадзін раніцы пастанова аб абвешчаньні Беларускай Народнай Рэспублікі **незалежнай і сувэрэннай дзяржавай.**

Тэй-жа раніцы апублікоўваецца 3-яя Ўстаноўчая Грамата Рады да беларускага народу:

### ТРЭЙЦЯЯ ЎСТАНОЎЧАЯ ГРАМАТА

**Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, ськінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго Ўстаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.**

**На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактах у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На падставе гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старонамі, запрапанаваўшы ім пераглядзець тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыцца Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.**

**БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ўласьне: Магілеўшчыну, Меншчыну, Віленшчыну, Горадзеншчыну, Віцебшчыну, Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну й сумежныя часткі суседніх губэрняў, заселеных Беларусамі.**

**БНР сьцьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Ўстаноўчай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 году.**

**Абвяшчаючы аб незалежнасьці БНР, яе Рада ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе, любячыя волю народы, памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.**

**25 сакавіка 1918 г., Менск.**

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**

Пасьля абвешчаньня Беларусі незалежнай і сувэрэннай рэспублікай расейская й жыдоўская нацыянальныя меншыні вышлі із складу Рады, хоць Жыды потым, па нейкім часе, вяртаюцца назад і бяруць удзел навет у ўрадзе. Міністар па справах жыдоўскае нацыянальнае меншыні **Жытлоўскі** захоўвае партфэль навет у часе, калі ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі апынуўся на эміграцыі. Ён-жа рэпрэзэнтаваў у свой час урад БНР у Лёндане.

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**М. Відук**



9 сакавіка 1953 году
пасьля даўгой, цяжкой хваробы памёр у Лювэне, Бэльгія,

## Мікола Равенскі

народжаны 5 сьнежня 1886 г. ў Ігуменшчыне,
выдатны кампазытар і музыкавед, заслужаны працаўнік беларускай музыкі, дзейны сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,
аб чым з глыбокім сумам паведамляе
**Управа Беларускага Інстытуту**

### ПАРТЫЗАНШЧЫНА НА БЕЛАРУСІ

Радыё «Вольная Эўропа» (расейскі сэктар) передало 21 лютага сёлета, што, згодна інфармацыяў многіх перабежчыкаў з за зялезнай заслоны, у Заходняй Беларусі дзеюць моцныя партызанскія групы, якія бальшавіцкім уладам прыносяць шмат няпрыемных клопатаў. Асабліва актыўна выступаюць партызаны на Палесьсі. Гэтак нядаўна ў Кобрыншчыне 2 самаходы між Кобрынам і Берасьцем, якія везьлі вайсковае абмундзіраваньне, былі затрыманыя й захопленыя партызанамі. На сколькі тут моцна разьвіты партызанскі рух, можна судзіць з таго, што транспартныя самаходы, якія выходзяць з Кобрына, маюць надаўчыя радыястанцыі дзеля сыгналізаваньня аб небясьпецы. Для аховы самога гораду Кобрына прыдзеленыя два панцырныя самаходы. Камуністычныя верхаводы гораду баяцца самі паказвацца ня толькі за горадам, але і ў самым горадзе. Яны парушаюцца выключна пад ахаронай спэцыяльнага вайсковага аддзелу.

### УВАГА, БЕЛАРУСЫ АНГЕЛЬШЧЫНЫ!

Просіцца перасылаць заказы на грамафонныя пліткі, насьпяваныя Беларускім Студэнцкім Ансамблем у Лювэне, непасрэдна на адрас:

U. Butrymovič, 19 Place Hoover,
Louvain, Belgique

Грошы за пліткі просім, калі ласка, перасылаць на адрас:

Rev. Č. Sipovič, Marian House, Holden Ave,
London N. 12.

ЯНКА. Дзякую за такія дары данайскія!

ГАНУЛЯ. А нашыя некаторыя мянчане, асабліва з Камароўкі і Пярэспы, гэткім спосабам апошнія гады і жывуць. Як толькі ўлада мяняецца, робяць сабе запас да новай перамены; мяняецца ўлада зноў — зноў робяць сабе запас да новай перамены, і гэтак ужо каторы год. А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ й дровы з Ваньковічавага лесу самакатам коцяць і коцяць на вяроўках.

ЯНКА. Бачыў, бачыў. Такая праца йдзе, якраз як пры будове ягіпецкіх пірамідаў.

МІКІТА. Меджду протчым, такое ўмелае скарыстаньне перамен палітычных сытуацый — надта лёгкі спосаб забясьпечыць сябе на чорны дзень.

ЯНКА. А вы гэта забясьпечаньне пачалі, як відаць, ад патакі?

МІКІТА. Ад большага чаго я не пасьпеў, бо, меджду протчым, апошні час заняты быў эвакуацыйнымі справамі, довадам чаго служаць вось гэтыя запакаваныя рэчы.

ЯНКА. Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць усе свае рускаісьціныя партыі і ўцякаць з роднага гораду?

МІКІТА. А так, пане прафэсар, маніўся, меджду протчым.

ЯНКА. Што-ж, можа гэта акурат падходзячая была-б для вас прафэсія. Езьдзі сабе із сваімі манаткамі ды езьдзі сабе, як гандляр з козамі зь кірмашу на кірмаш, туды-сюды езьдзі сабе ды езьдзі. А ўсё-ж такі, чаму вы не паехалі?

МІКІТА. Вышла малая мітрэнга. Гэты, меджду протчым, рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры, абяцаў мне вылатвіць «пшэпустку» на выезд, але пад'ашукаў. Сам як пан выехаў, а мяне бяз «пшэпусткі» пакінуў. Дарма толькі на вакзал з рэчамі сьцягаўся.

АЛЕНКА. І вы гэта, пане рэгістратар, так да сэрца ўзялі, што ажно барада ў вас вырасла, бо дагэтуль, здаецца, вы не насілі яе?

МІКІТА. А гэта, меджду протчым, яна вырасла ў зьвязку з палітычнымі хмарамі на нашым Менскім гарызоньце. Мамзэль Наста загадзя папярэдзіла мяне з пэўных крыніц, што пры новай палітычнай сытуацыі будуць дабравольна браць маладых мусьі і дабравольна адпраўляць іх на Ўрангелеўскі фронт. Вось я, не зважаючы на тое — выеду ці ня выеду, і пастараўся ня выглядаць маладым.

(Далей будзе)

## «Тутэйшыя» Янкі Купалы

(Заканчэньне)

нармальнага існаваньня ў вабставінах рэжыму (зьява 3-яя дзеі III); або ўзяць цікавае азначэньне слова «мітынг», даванае тым самым грамадзянінам, рыхтуючыся да «ўлучэньня ў грамадзкае жыцьцё» чаканых з паваротам бальшавікоў (зьява 9-ая дзеі II) — чытач сам лёгка знойдзе й добра пасьмяецца каля шмат падобных мамэнтаў, якіх у гэтай рэчы Купалы, што называецца, ня купіць.

Але фактычнымі, сцэнічнымі дзейнымі асобамі п'есы выступаюць не акупанты Беларусі, а самі падлеглыя бясконцым акупацыям мясцовыя, «тутэйшыя» абарыгены й аўтахтоны-тубыльцы краю — то-ж бо й сама п'еса названая аўтарам «Тутэйшыя». Аднак, з гэным словам «тутэйшыя» і ў Купалавым творсьцьве, і ў цэлай нашай літаратуры, дый у мове наагул зьвязанае й пэўнае спэцыфічнае значэньне, у якім яно галоўна й выступае ў дадзенай п'есе. Рэч у тым, што тэрмінам «тутэйшыя» народ наш за даўгую эпоху навалы на яго нацыянальных перасьледаў і дэнацыяналізацыйных напораў з розных бакоў прызвычаіўся абазначаць самога сябе, як нейкім сваеасаблівым нацыянальным псэўданімам, з аднаго боку, зручным пры дачыненьнях з дэнацыяналізатарамі, прыймальным для іх і іхных тэндэнцыяў адмаўленьня нашае нацыі пад якім-бы там ня было імём, як нацыі наагул, з другога-ж боку, у пэўнай меры здавальняючым і асноўнае нацыянальнае пачуцьцё бацькаўшчыны й нат некаторую сьведамасьць нацыянальнае самабытнасьці й апрычонасьці. Як ведама, дайшло да таго, што гэты нацыянальны псэўдонім, напачатку запрапанаваны, бясспрэчна, дэнацыяналізатарамі (сама вонкавасьць слова «тутэйшыя» мае на сабе бяссумлеўны адбітак польскага паходжаньня як у цэласьці, гэтак і ў такіх паасобных мамэнтах, у нашай мове немагчымых, як цьвярдое «т» перад суфіксам «-ейш», а таксама ўжываньне гэтага суфікса на абазначэньне адпрыслоўнага прыметніка, як у Палякоў, а ня вышэйшае ступені прыметніка, як у нас; нармальнае беларускае слова на абазначэньне дадзенай зьявы, шмат дзе і ўжыванае — гэта «тутэшны», або « гэттэшны», ці, у дачыненьні да людзей — «тубылец», «тубыльцы») — паступова выціснуў з народнае сьведамасьці нат самую памяць пра запраўднае ймя народу, так што нашаму нацыянальнаму адраджэньню й давялося перш за ўсё павесьці змаганьне супраць створанае нацыянальнае бязіменнасьці й псэўданімнасьці, як адлюстраваньня нацыянальнае нясьведамасьці й бясхрыбетнасьці. Адсюль і самы тэрмін «тутэйшыя» пачаў ужывацца найбольш дзеля абазначэньня нацыянальнае і, шырэй, наагул ідэйнае бясхрыбетнасьці. З гэткага значаньня Купала, разьвіваючы пачатае яшчэ ягоным папярэднікам Пранцішам Багушэвічам, і стварыў свой вобраз «тутэйшага» яшчэ задоўга да таго, як ён стаўся галоўным і ў разгляданай намі гэтта п'есе «Тутэйшыя».

Найбольш поўна гэты вобраз выступіў у двух сатырычных вершах-«куплетах» Купалы — «Мой пагляд і мэта» (З прыпеўкаў тутэйшага) ў зборніку «Шляхам Жыцьця» і — «Тутэйшы» ў зборніку «Спадчына». Тутака Купалам дадзены, сказаць-бы, сярэдні, зборны варыянт гэтага вобразу зь ягонай бясхрыбетнасьцяй, выяўленай што да нацыянальнае прыналежнасьці:

...Я ня Турак і ня Грэк
І навет не Паляк і не Маскаль,
А проста я тутэйшы чалавек

(«Тутэйшы»);

што да патрыятычнай сьведамасьці — што да роднае мовы асабліва:

А вось, якой я мовай гавару,
Хоць пры, каб сьцяміць, к знахару па лек...
Ну што? скажу: тутэйшая яна
Як я і сам тутэйшы чалавек!

(«Тутэйшы»);

...Знаём з расейскай, з польскай мовай;
Сваёй з гасьцямі ані мру-мру,
Хаця ня зрокся і «вясковай» —
«папросту» з «простым» гавару.
Зь яе-ж рабіць які парад,
За гэта дзякую ўжо я...

(«Мой пагляд і мэта»);

што да сацыяльна-клясавых дачыненьняў:

На пана, жыда і на чына
Ня маю ласкі ні крыхі;
Хоць перад першым выгнуць сьпіну,
З другім гішэфцік завясьці,
А з трэйцім знаць ў хабарах лад —
Не ад таго падчас і я...

(«Мой пагляд і мэта»);

і нарэшце што да рэлігіі:

Ў сьвятую веру моц, здароў ці квол,
Набожна ў цэркву і ў касьцёл хаджу,
Хаця ў царкве крычаць: ня йдзі ў касьцёл,
А у касьцеле — не хадзі ў царкву.
Калі-ж каго-б і стрэліла спытаць:
Якой ты веры? ўжо-ж бы так адсек:
Тутэйшай веры я, каб ня зылгаць,
Бо я і сам тутэйшы чалавек!

(«Тутэйшы»);

а таксама што да іншых жыцьцёвых і бытавых зьяваў (як да сваяцтва, гаспадаркі, працы, суседзтва, зладзейства, пазычаньня грошай, гарэлкі, навукі й інш. Гл. «Мой пагляд і мэта»).

(Заканчэньне ў наступным нумары)

**Р. Склют**

